ГУЧНАЯ СПРАВА

# Кар'ерны ўзлёт Уладзіміра Мальцава па ўзмаху саноўнага пальца

"Народная Воля" працягвае сачыць за справай былога генеральнага дырэктара "Барысаўдрэва" **Уладзіміра Мальцава**. Слуханні ў Мінскім абласным судзе працягваюцца. У аўторак пачаўся допыт абвінавачанага. Яго праводзіць дзяржаўны абвінаваўца **Алена Філовіч**.

Нагадаем, следства прыйшло да высновы, што Уладзімір Мальцаў *"заведама лжыва ў імя кар'ерызму і асабістых выгод прадставіў сябе перад кіраўніцтвам краіны як кампетэнтнага кіраўніка"*. А яго асабістая зацікаўленасць нібыта была заснавана *"на эгаістычным паразітаванні службовымі паўнамоцтвамі, кар'ерызме, утойванні сваёй некампетэнтнасці"*. У сувязі з гэтым абвінавачаны распавёў суду, як і з чыёй дапамогай ён заняў крэсла генеральнага дырэктара ААТ "Барысаўдрэў".

*"На прадпрыемства я прыйшоў 1 лістападзе 2010 года выконваючым абавязкі галоўнага інжынера, які на той момант знаходзіўся ў адпачынку,* — пачаў свой аповед Уладзімір Мальцаў. — *Вясной 2011 года ў сувязі з вялікай загрузкай і пачаткам грандыёзнага будаўніцтва і мантажу абсталявання па цэху МДФ мяне перавялі намеснікам генеральнага дырэктара па новай тэхніцы і пераўзбраенні. Восенню 2011 года, не ведаю, па якіх прычынах, але галоўны інжынер быў звольнены, і мяне вярнулі на гэтую пасаду. Пры тым я ўжо стаў сумяшчаць тры пасады: галоўнага інжынера, намесніка генеральнага дырэктара па новай тэхніцы і намесніка гендырэктара па капітальным будаўніцтве. Пасада намесніка па будаўніцтве пастаянна была вакантнай, людзі прыходзілі і сыходзілі. Дадзеныя абавязкі былі ўскладзены на мяне аднаго!*



*25 сакавіка 2012 года дырэктар Уладзімір Кухто захварэў, лёг у бальніцу, і мяне ў першы раз паставілі выконваць абавязкі генеральнага дырэктара. З фінансавымі пытаннямі і пытаннямі, звязанымі з грашыма, мяне не знаёмілі, з гэтым пытаннем я ўпершыню сутыкнуўся.*

*Здаецца, 13 красавіка* (на самай справе 12 красавіка. — **Рэд.**) *2012 года прадпрыемства наведаў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч. Дырэктар Кухто быў звольнены, і я ў гэты дзень "указкай-пальцам" Мясніковіча быў прызначаны выконваючым абавязкі генеральнага дырэктара.*

*З Шульгой* (Уладзімір Шульга — на той момант старшыня канцэрна "Беллеспаперпрам". — **Рэд.**) *я на гэтую тэму размаўляў, казаў яму, што ведаў у мяне мала, слаба ведаю эканамічны бок прадпрыемства..."*

Паводле слоў Уладзіміра Мальцава, эканамічны бок "Барысаўдрэва" на той момант уяўляў сабой гнятлівае відовішча. Да месца заўважыць, Мальцаў упершыню пабываў на гэтым прадпрыемстве ў 1991 годзе, калі служыў у войску. У лістападзе 2010 года ён зноў прайшоўся па цэхах і ніякіх змен у лепшы бок не заўважыў: *"Усё як было ў 1991 годзе, так і засталося".*

На момант, калі кіраўнік урада наведаў ААТ "Барысаўдрэў", прадпрыемства практычна стаяла. *"Аб'ёмы вытворчасці складалі каля 20%,* — працягнуў свой аповед абвінавачаны. — *Брыгады лесанарыхтовак са студзеня 2012 года ў лес не выязджалі, запалкавая вытворчасць была практычна спынена ў сувязі з адсутнасцю кардону, фанерная вытворчасць не працавала ў сувязі з адсутнасцю лесу. Цэх МДФ на той момант запушчаны не быў. Прадпрыемства фактычна было спынена, і на парозе стаялі судовыя выканаўцы, якія апісалі ўсю аргтэхніку і спрабавалі яе забраць. Прычым апісалі яе яшчэ ў лістападзе-снежні 2011 года, даўшы магчымасць адтэрміноўкі аплаты даўгоў. Але папярэднім кіраўніцтвам гэта не было зроблена, і вясной тэхніку хацелі канфіскаваць. Мы былі вінны пастаўшчыкам парадку 90 мільярдаў рублёў, а нам нашы спажыўцы — каля 2—3 мільярдаў. Гэта значыць, абаротных сродкаў не было, зарплата не выплачвалася... Запазычанасць па камандзіроўках была з лістапада 2011 года, запазычанасць па адпачынках — з лютага 2012 года. Прадпрыемства знаходзілася на стадыі банкруцтва.*

*На прапанову пачаць працэс банкруцтва і прызнаць прадпрыемства банкрутам адразу атрымаў адмову, паколькі, згодна з 525-ім указам, прадпрыемства павінна было працаваць і выконваць пэўныя даведзеныя паказчыкі. Такая "спадчына" мне дасталася!"*

Як паведаміў Уладзімір Мальцаў, у маі 2012 года прыйшоў загад канцэрна аб прызначэнні яго *"паўнапраўным генеральным дырэктарам"*. *"З чым я быў не згодны і каля месяца адмаўляўся падпісваць заяву на дадзеную пасаду",* — удакладніў ён.

Дарэчы, на судзе было пацверджана, што ў матэрыялах крымінальнай справы сапраўды ёсць заява Мальцава, якую ён напісаў праз некалькі месяцаў. У заяве ўтрымліваецца просьба перавесці яго на пасаду выконваючага абавязкі гендырэктара ААТ "Барысаўдрэў". Мяркуючы па ўсім, просьба засталася без задавальнення, а Мальцава зрабілі дырэктарам.

Дык ці рваўся ён на гэтую пасаду, "падманваючы кіраўніцтва"?

На гэтае пытанне, спадзяемся, адкажа суд.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ.**

### ТЫМ ЧАСАМ

Першы віцэ-прэм'ер урада **Уладзімір Сямашка**, які курыраваў мадэрнізацыю на гэтым прадпрыемстве, да суда пакуль не дайшоў. Але ён закрануў тэму "Барысаўдрэва", адказваючы на пытанні дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі.

— Стаў пагалоскай "Барысаўрэў", — сказаў Сямашка. — Вось вынікі, напрыклад, 2012 года: 1026 чалавек, сярэдняя выпрацоўка 7,9 мільярда беларускіх рублёў, пры гэтым штомесячныя страты — 1,7 мільярда рублёў. І заробак 2 мільёны рублёў. Рэнтабельнасць — мінус 35 працэнтаў. Скажыце, можна такое прадпрыемства трымаць далей? Нельга! Там тры вытворчасці — гэта вытворчасць фанеры, запалак, МДФ. Часам абвінавачваюць: "А чаму вы адразу не зрабілі карцінку?" Хто памятае "Барысаўдрэў" два-тры гады таму, пяць гадоў? А хто не памятае, фатаграфіі паглядзіце: гэта канюшня была, дзедаўская вытворчасць, там кацельня стаяла 1923 года пабудовы і гэтак далей. Сёння гэта цацка. Чаму адразу не зрабілі? А як можна было зрабіць? Усе тры вытворчасці спыніць адразу? А чым карміць людзей, зарплаты плаціць?.. На пачатку мінулага года зрабілі вытворчасць МДФ, яшчэ не запусціўшы "запалку" на поўную магутнасць, пачалі мадэрнізацыю "фанеры". Колькасць супрацоўнікаў упала: нехта на пенсію пайшоў, нехта знайшоў працу... Калі на заводзе мінус 35 працэнтаў рэнтабельнасці, калі зарплата 2—2,5 мільёна — хто ж там застаўся? Там засталіся троечнікі ўчарашнія. Вось з гэтымі калектывамі прыходзіцца рэалізоўваць праекты. А рэалізуем праекты — будзем раскручвацца.

СТАЛІЦА

## На адну кватэру ў Мінску прэтэндуе да 400 сем'яў

Конкурс на атрыманне арэнднай кватэры ў Мінску складае ад 100 да 400 чалавек.

*"Перавага аддаецца тым, хто стаіць у чарзе маючых патрэбу, а з іх — тым, хто стаіць найдаўжэй. Але кватэры размяркоўваюцца не толькі паміж чаргавікамі, але і сярод тых, хто атрымлівае іх ад работы",* — паведаміў начальнік упраўлення жыллёвай палітыкі Мінгарвыканкама **Аляксандр Аўраменка.**

Адносна кошту арэнды ён сказаў, што *"кошты адрозніваюцца ў залежнасці ад плошчы і месца размяшчэння".* Так, у Заводскім раёне аднапакаёвыя кватэры здаюцца ў арэнду за 550—570 тысяч рублёў у месяц, у Цэнтральным — 1 мільён 200 тысяч.

### ДАРЭЧЫ

На чарзе маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у Мінску стаяць 235 тысяч грамадзян. Тры гады таму гэты паказчык складаў больш за 280 тысяч чалавек.

Скарачэнне чаргі адбылося пасля яе зверак. Раней яна праводзілася раз у пяць гадоў, цяпер — штогод з 1 лютага па 1 мая. Толькі за апошні год 31 тысяча чалавек была знята з такога ўліку, таму што ўмовы іх пастаноўкі сталі не супадаць з заканадаўчымі нормамі.

Адным словам, чарга на кватэру скарацілася толькі дзякуючы... паперы, новым законам і правілам.

## Няма пакупнікоў

*Прызначаны на сёння аўкцыён па продажы ў Мінску гістарычнага будынка на вуліцы Кастрычніцкай, 16 не адбудзецца. Ад патэнцыяльных пакупнікоў не паступіла ніводнай заявы.*

Пра гэта афіцыйна паведамілі ў ЗАТ "Цэнтр прамысловай ацэнкі", якое займалася арганізацыяй таргоў. Лот уключаў у сябе чатыры цагляныя будынкі, пабудаваныя на пачатку XX стагоддзя. Раней гэтыя карпусы належалі былому мэталаапрацоўчаму заводу, а цяпер знаходзяцца ва ўласнасці кіруючай кампаніі холдынга "Белстанкаінструмент" ААТ МЗОР і ўключаны ў спіс аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны.

Комплекс выстаўляўся на таргі за крыху больш як 116 мільярдаў рублёў, што эквівалентна амаль 11 мільёнам долараў.

Згодна з правіламі, цяпер будзе прызначаны другі аўкцыён, а кошт комплексу будынкаў знізяць на 20%. Праўда, патэнцыяльных пакупнікоў палохае не толькі кошт. У адпаведнасці з распрацаваным праектам, былы прамысловы квартал падпадзе пад рэканструкцыю, пасля якой будынкі былога металаапрацоўчага завода павінны выкарыстоўвацца ў якасці музейна-асветніцкага комплексу. Арганізаваць тут высокапрыбытковыя казіно або забаўляльныя клубы не атрымаецца.

РЕАКЦИЯ

# Завода не будет

*В этом году "Народная Воля" рассказала о том, что в Беларуси планируется строительство завода по выпуску калийных удобрений из промышленных отходов — глинисто-солевых шламов, скопившихся в хранилищах под Солигорском. Некоторые белорусские ученые восприняли идею на ура. Но были и те, кто утверждал, что шламы в качестве удобрений — это необратимая экологическая катастрофа. Со страниц газеты Наталья Шульга, кандидат химических наук, бывший старший научный сотрудник Института общей и неорганической химии НАН Беларуси обратилась с открытым письмом к председателю Президиума Национальной академии наук Беларуси академику Владимиру Гусакову с просьбой остановить строительство такого завода. Наталья Шульга утверждала, что удобрение на основе солевых шламов не только снизит плодородие почвы, но и ускорит ее деградацию, кроме того, это может привести к увеличению концентрации токсичных веществ в почве, грунтовых водах, водоемах и т.д.*

*Мы решили поинтересоваться у Натальи Шульги, какова была реакция на ее публикации в "Народной Воле".*

— У меня хорошие новости. Строить завод по выпуску калийного удобрения из промышленных отходов для белорусских сельхозпроизводителей не будут, — ***сообщила Наталья Шульга.*** — "Пионерский" проект закрывают по причине его нерентабельности. На мой взгляд, формулировка причины выглядит скорее как словесная уловка, поскольку нерентабельность данного производства и негативные последствия использования "удобрения" из отходов были очевидны изначально. Придавать товарный вид мусору, содержащему не более десяти процентов полезного вещества, и возить за сотни километров балласт для того, чтобы уничтожать собственные пахотные угодья и источники питьевой воды, на самом деле слишком дорого, да и пахнет дурно, так и хочется вставить слово "диверсия". Хотелось бы знать, кто конкретно и с какой целью продавливал и утверждал данную государственную программу.

Возвращать деньги, бездарно спущенные в унитаз, авторы "шедевра", судя по всему, не будут. Как и их коллеги по научному бизнесу, "освоившие" совсем недавно около 200 тысяч долларов на проекте солянокислой переработки фосфатного сырья, а по сути распилившие часть прибыли государственного предприятия. И эту работу закрыли с формулировкой "нерентабельно". Сейчас стараются сделать вид, что грубых ошибок у создателей технологии не было, хотя они косяком прут уже с первых страниц отчетов. Толковых экспертов тоже как будто "найти не могут", словно на планете Земля остался единственный островок разума — Беларусь. "Нерентабельность" оказалась очень удобной лазейкой и стала надежной ширмой для любых прохиндиад. Один из "нужных" участников "солянокислого распила" вот-вот станет членом-корреспондентом и будет решать, что такое хорошо и что такое плохо для белорусской науки, пока она не рухнет окончательно.

Большой вопрос, почему, рискуя и теряя уважение к себе, руководство белорусского флагмана соглашается делать шикарные подарки чужим дядям неведомо за что. Не думаю, что там самостоятельно принимают подобные решения. Скорее, выполняют какие-то указания сверху. Возможно, сейчас, когда неприятные факты получили широкую огласку, поставлена задача любой ценой сохранить лицо белорусской науки. Как-никак это важная составляющая жизни страны, ее имидж. Хотя, если по правде, это лицо давно напоминает нижнюю часть человеческого тела, удобную для сидения. Лучше было бы не спасать таких "ученых" и дать им возможность сломать свои шеи. Чем скорее это случится, тем раньше мы оттолкнемся от дна бездны, в которой оказались.

Думаю, однажды мы узнаем, кто стоит на страже абсолютной безнаказанности "нужных" людей и почему строгость закона обрушивается, как правило, на головы простых граждан. А сегодня есть повод порадоваться тому, что надвигающуюся экологическую катастрофу удалось предотвратить, хоть поначалу мало кто верил, что это получится.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Дым без агню?

*Футбольны матч чэмпіянату Беларусі па футболе паміж "Гомелем" і наваполацкім "Нафтанам" трапіў пад падазрэнне букмекераў, але Федэрацыя футбола расследаванне праводзіць не будзе.*

Напярэдадні сустрэчы "Гомеля" і "Нафтана" у адной з самых буйных букмекерскіх кантор Betfair на "Гомель" былі пастаўлены сур'ёзныя для беларускага чэмпіянату грошы — каля 50 тысяч долараў. Што выклікала ў букмекерскіх аналітыкаў прадказальную рэакцыю, таму што да гэтага гамяльчане прайгралі пяць сустрэч запар. У выніку гульню знялі з лініі практычна ва ўсіх букмекерскіх канторах. Дарэчы, "Гомель" выйграў з лікам 3:0.

Натуральна, што наўпрост аб дамоўленым матчы гаворка не ішла (для гэтага патрэбны як мінімум канкрэтныя факты), аднак скандальны шар пакаціўся, а алею ў вогнішча дадаў той факт, што ў наваполацкіх футбалістаў да гэтага часу існуюць праблемы з атрыманнем сваіх заробкаў. Да таго ж некаторыя адзначылі і "цікавы" другі гол, які прапусціў "Нафтан".

**— Больш за ўсё нараканняў да другога гола, калі два футбалісты "Нафтана" беглі побач з іграком "Гомеля" Сітко і ніяк не стараліся яму перашкодзіць. Гэта звычайная памылка, на ваш погляд?** — запыталіся ў галоўнага трэнера наваполацкай каманды **Валерыя СТРЫПЕЙКІСА.**

— Так-так, там ёсць момант, калі Сітко пабег, а два нашы ігракі не пабеглі за ім. Цяжка зараз сказаць, чаму яны так зрабілі.

**— А можа, нехта з футбалістаў вырашыў палепшыць сваё фінансавае становішча?**

— Я выключаю такую магчымасць.

Карэспандэнт "Народнай Волі" пацікавіўся ў Федэрацыі футбола, ці праводзілася з гэтай нагоды якое-небудзь расследаванне, улічваючы той рэзананс, што атрымаўся пасля матча.

*"З сітуацыяй разбіраўся афіцэр гонару нашай федэрацыі Віктар Сокал,* — адказалі ў прэсслужбе федэрацыі. — *Наколькі вядома, ніякага расследавання не будзе".*

*"Расследавання не будзе, матч быў нармальны,* — сказаў Віктар Пятровіч. — *Я размаўляў з суддзямі, з прадстаўнікамі каманд, нічога падазронага ў тым матчы не было. А тое, што пішуць у прэсе, то няхай пішуць".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Прэзідэнцкія выбары не на парадку дня

Форум левых дэмакратычных сіл пройдзе ў лістападзе ў Мінску. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" **Валерый Ухналёў.**

*"На форуме будзе абмяркоўвацца бачанне левымі партыямі, рухамі і грамадскімі аб'яднаннямі сацыяльнай палітыкі Беларусі, а таксама спосабы, якія мы можам прапанаваць для вырашэння сацыяльных праблем, што найбольш хвалююць грамадзян краіны",* — сказаў ён.

*"Больш канкрэтна пра дату і месца паведамім пазней, калі будуць вырашаны ўсе арганізацыйныя пытанні",* — паабяцаў палітык.

Пры гэтым спадар Ухналёў падкрэсліў, што на форуме не будуць разглядацца пытанні ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. Паводле яго слоў, на форуме будуць абмяркоўвацца толькі сацыяльныя пытанні, і гэта прынцыповы падыход, падтрыманы ўсімі арганізатарамі.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Индустриальный парк: амбициозный проект или пропагандистская авантюра?

*Более 20 компаний из разных стран проявляют интерес к Китайско-Белорусскому индустриальному парку. В качестве резидента парка уже зарегистрировано одно из крупнейших китайских предприятий в сфере телекоммуникаций Huawei.*

### Иностранцы наготове

Резидентом парка стал второй по величине производитель телекоммуникационного оборудования и мобильных телефонов в Китае ZTE. Рассматривает возможность вложить деньги один из крупнейших мировых производителей персональных компьютеров китайская компания Lenovo.

Кроме того, интерес к вхождению в парк проявляют компании из Беларуси, России, Румынии, Германии, ОАЭ, США, которые работают в фармацевтической и машиностроительной отраслях.

*"Заинтересованные компании ожидают, когда закончатся работы внутри парка, чтобы, входя в него, они были уверены, что будут подключены к инженерным сетям. Кроме того, они изучают условия ведения бизнеса",* — говорит представитель администрации Китайско-Белорусского индустриального парка **Юрий Шилин.**

К границам парка уже подведены основные инженерные сети (электричество, газ и связь). Сейчас идет проектирование внутренней инженерно-транспортной инфраструктуры первого этапа освоения. Окончательно создать необходимую инфраструктуру для открытия производств на первом этапе планируется в 2016 году.

### Наполеоновские планы

Китайско-Белорусский индустриальный парк, который получил название "Великий камень", располагается в 25 км от Минска. Под него отводится более 8 тысяч гектаров земли в Смолевичском районе. Парк расположен в непосредственной близости от Национального аэропорта, железнодорожных путей, автомобильной магистрали Берлин—Москва.

Срок строительства парка — 30 лет, численность работающих — 120 тысяч. Приоритетные направления, намечаемые к развитию в парке, — электроника, биомедицина, тонкая химия, машиностроение и новые материалы.

Для резидентов Китайско-белорусского индустриального парка созданы особые льготные условия. В течение первых 10 лет — никаких налогов, в последующие 10 лет — 50%. Резиденты также освобождаются от уплаты таможенных платежей при ввозе оборудования.

Общая сумма инвестиций может достичь 5,6 млрд долларов. Для сравнения: в прошлом году Беларусь заработала на экспорте продовольствия порядка 5,8 млрд долларов.

Как считает Александр Лукашенко, проект снимет проблему финансовой стабильности Беларуси и поможет стране совершить технологический скачок.

### Букет рисков

Однако независимые аналитики смотрят на этот амбициозный проект скептически. Основатель и совладелец интернет-ресурса TUT.by **Юрий Зиссер** в большой статье на эту тему, опубликованной в марте, выделил несколько рисков, которые могут возникнуть при реализации проекта.

Во-первых, отмечает Зиссер, инвесторов изначально ориентируют на построение валообразующих производственных предприятий, не предполагающих участия ученых и изобретателей.

*"Если посмотреть с концептуальной точки зрения, в постиндустриальном XXI веке парк продолжает традиции индустриализации XIX—XX веков и с точки зрения стратегии конкурентоспособности Беларуси является шагом в сторону. Беларусь уже прошла индустриальный этап и сейчас с помощью индустрии информационных технологий прорывается в постиндустриальную эпоху. Поэтому грядущее возвращение на индустриальные рельсы для нашей страны выглядит регрессом",* — полагает Зиссер.

Во-вторых, считает он, знакомый многим смог над большими китайскими городами может появиться над белорусской столицей.

В-третьих, с появлением парка этническая однородность белорусского общества будет нарушена.

*"Представляется, что верхушка типичного завода, включая руководство и инженерно-технический персонал, будет состоять из нескольких десятков, максимум сотен иностранцев, в то время как на рабочих должностях будут преимущественно белорусы, в противном случае себестоимость производства будет слишком высока",* — считает основатель TUT.by. По его мнению, это может привести к межнациональным конфликтам.

В-четвертых, изготовленная в парке продукция доставит массу хлопот странам Таможенного союза. Со своей стороны Евросоюз может запросто перекрыть каналы импорта для всей белорусской продукции, охраняя свой рынок от подешевевших китайских товаров, продаваемых под маркой как китайских, так и белорусских.

*"Таким образом, в результате реализации проекта Китайско-Белорусского индустриального парка, по причине беспрецедентных льгот в ближайшее десятилетие не получая доходов в бюджет, мы рискуем взамен получить проблемы экологии, демографии, экономики и нажить сильных врагов",* — заключает Зиссер.

### Пропагандистская авантюра?

Независимый экономист **Александр Обухович** называет Китайско-Белорусский индустриальный парк "пропагандистской авантюрой".

*"Китай проводит сугубо националистическую политику. Я не вижу, где у нас с Китаем здесь может быть совпадение экономических интересов",* — говорит экономист.

Помимо этого, он не видит в реализации проекта большого экономического смысла как для Беларуси, так и для Китая.

Александр Обухович также считает, что Евросоюз и Россия могут не пустить на свой рынок товары, произведенные в парке.

*"Кроме того, наша сборка очень дорогая",* — говорит независимый экономист. Он предрекает парку судьбу белорусских свободных экономических зон, которые, *"по сути, умерли".*

*"Отдельные компании сделают свой небольшой профит. В масштабах страны это ноль",* — прогнозирует Обухович.

### Как привлечь серьезных инвесторов?

Руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса (Минск) **Ярослав Романчук** увязывает успех проекта с улучшением инвестиционного климата в стране.

*"Когда каждый маленький начальник мнит себя генералиссимусом в отношении частных предприятий, то это убивает желание инвесторов что-либо здесь делать. Когда к инвесторам есть 25 требований, которые ни в одном документы не прописаны и являются субъективными, то не приходится говорить о том, что кто-то серьезный к нам придет",* — считает экономист.

По его мнению, нужно придумать 10—15 пунктов, чтобы Беларусь стала восприниматься как цивилизованная современная страна, а не Советский союз 2.0, тогда инвестиции пойдут в нашу страну.

**Александр ЯРОШЕВИЧ.**

УВАГА!

## У Беларусі шукаюць верагоднага забойцу двух чалавек



Па падазрэнні ў жорсткім забойстве следчыя шукаюць 30-гадовага **Сяргея Хмялеўскага,** ураджэнца вёскі Мачулішчы, раней неаднаразова судзімага.

На момант злачынства ён быў апрануты ў шэрую байку з каптуром без надпісаў. На байцы была балоневая чорная безрукаўка. Мужчына быў у зімовых чаравіках. Падазроны хударлявы, высокі, стрыжка кароткая. Паводле наяўнай інфармацыі, пры сабе носіць нож.

Увечары 1 лістапада падчас тушэння пажару ў прыватным доме ратавальнікі знайшлі абгарэлыя целы мужчыны і жанчыны. Следча-аператыўная група на месцы здарэння высветліла асобы пацярпелых. Гэта былі 49-гадовы мясцовы жыхар і яго 48-гадовая сужыцелька.

У якасці асноўнай версіі здарэння следчыя разглядаюць забойства двух чалавек. На целах загінуўшых выяўлены шматлікія колата-рэзаныя раны шыі і галавы. Таксама ёсць усе падставы меркаваць, што падпал дома быў учынены з мэтай утойвання слядоў злачынства.

ЗАКУЛІССЕ

# Які тэатр пакажа лепшы спектакль?

***Чаргovы конкурс пад назвай “Нацыянальная тэатральная прэмія” павінен прайсці ў Мінску 24—30 лістапада. Праводзіцца ён для таго, каб вызначыць пераможцаў, матэрыяльна падтрымаць творцаў, паспрыяць цікавасці да спектакляў шырокай публікі, прадставіць своеасаблівы зрэз сучаснай сітуацыі ў мастацтве. А таксама каб убачыць пастаноўкі рэгіянальных калектываў, якія рэдка дабіраюцца да Мінска.***

## Перанос — на карысць?

Нацыянальная тэатральная прэмія не праводзілася ўжо два гады. Апошні, другі па ліку, конкурс адбыўся ў 2012-м. А летась **Уладзімір Карачэўскі**, тагачасны першы намеснік міністра культуры, аб’явіў пра яе перазагрузку. Былі названы дзве прычыны: жаданне дапрацаваць палажэнне аб прэміі і яе рэгламент, а таксама паказаць сапраўды лепшыя спектаклі. Ці атрымалася? І так, і не.

Галоўны пазітыў — ***вытрыманая паўза***. Годныя спектаклі ў Беларусі з’яўляюцца не так часта. Каб кожны год набіраць праграму, даводзілася ўключаць у яе выпадковыя пастаноўкі (у 2012 годзе яны складалі палову ад агульнага спіса). Сёлета відавочных аўтсайдараў усяго два: **“Хто смяецца апошнім”** Тэатра-студыі кінаакцёра і **“Вітаўт”** Нацыянальнага тэатра оперы і балета. Калі вы не нацыянальна свядомы глядач, наўрад ці вас натхніць “Пан Тадэвуш” Купалаўскага тэатра. Але большасць спектакляў трымаюць пэўную планку. Таму агульны ўзровень Трэцяй нацыянальнай тэатральнай прэміі — самы моцны ў параўнанні з папярэдняй.

Адной з праблем мінулых гадоў быў ***падлік галасоў***. Журы, сфарміраванае па прынцыпе акадэміі, налічвала больш за сотню чалавек. *“Нацыянальныя тэатры вылучалі па пяць “акадэмікаў”,* — казаў драматург **Аляксей Дудараў**. — *І ўсе пяць галасавалі. А звычайныя абласныя ці гарадскія тэатры вылучалі па тры “акадэмікі”, і часцяком бывала так, што два з іх не маглі прыехаць, таму што былі заняты ў рэпертуары, у выніку галасаваў толькі адзін”.* Іншым разам здаралася, што “акадэмікі”, нібы студэнты, прагульвалі паказы. Таму аддавалі голас за пастаноўкі, якія ніколі не бачылі. Цяпер сфарміраваны асобныя кампактныя журы па трох секцыях: драматычны, музычны і лялечны тэатр. Можна спадзявацца на большую аб’ектыўнасць.

Нарэшце, трэці пазітыўны момант — ***элементарная логіка ў намінацыях***. Раней усе спектаклі ацэньваліся разам. Таму, калі даводзілася галасаваць за лепшую жаночую ролю, атрымліваўся абсурд: оперную спявачку трэба было параўноўваць з актрысай лялечнага тэатра або балерынай. Цяпер структура наступная: вылучаны пяць жанраў (драма, лялечны тэатр, опера, балет, спектакль музычнага тэатра), асобна разглядаюцца спектаклі для дзяцей. У кожным жанры ацэньваецца лепшая пастаноўка і лепшая акцёрская праца. Акрамя таго, захавана намінацыя “Лепшая беларуская пастаноўка” (яе атрымлівае спектакль, створаны паводле п’есы або інсцэніроўкі сучаснага беларускага аўтара, а таксама паводле лібрэта або твора сучаснага беларускага кампазітара). Уведзена намінацыя “Лепшы дэбют” (за спектакль або ролю для творцаў, маладзейшых за 35 гадоў).

## Конкурс — адзін прэтэндэнт на месца

Галоўны спрэчны момант — у ***працэдуры выбару спектакляў***. Ва ўсім свеце папярэдні адбор ажыццяўляецца спецыялістамі (крытыкамі або тэатразнаўцамі), а ўжо канчатковае рашэнне застаецца за журы. У Беларусі ўсё наадварот. Спектаклі на прэмію вылучаюць самі калектывы. Дакладней — іх кіраўніцтва. Таму ў праграме тэатральнай прэміі ад Нацыянальнага тэатра оперы і балета ёсць оперы **“Лятучы галандзец”** і **“Рыгалета”**, але няма “Турандот”, ёсць балет **“Вітаўт”**, але адсутнічаюць **“Шэсць танцаў”.** Музычны тэатр прадстаўлены не больш моцнай **“Вестсайдскай гісторыяй”,** а нацыянальным мюзіклам **“Соф’я Гальшанская”**. Купалаўскі — спектаклем **“Пан Тадэвуш”**, а не **“Дон Жуанам”** (усе альтэрнатыўныя пастаноўкі выглядаюць больш арыгінальна і цікава).

Другая праблема — ***жаданне нікога не пакрыўдзіць***. Таму кожны тэатр мог вылучыць на прэмію адну-дзве пастаноўкі. Не дзіўна, што ў праграме прадстаўлены спектаклі 18 айчынных тэатраў (усяго іх 29). Але ўзнікае абсурдная сітуацыя. На статус лепшага балета і спектакля музычнага тэатра прэтэндуюць... па адной пастаноўцы (адпаведна, **“Вітаўт”** і **“Соф’я Гальшанская”**). Атрымліваецца сітуацыя, уласцівая савецкім выбарам: адзін кандыдат на адно месца. Дык які сэнс у спаборніцтве, калі пераможцы вядомы загадзя?



> ***На дадзены момант сума ўзнагароджання з’яўляецца дастаткова сціплай. Кожны з пераможцаў у намінацыях “Лепшая акцёрская работа” і “Лепшы дэбют” атрымае па 6 мільёнаў рублёў. Калектыў, спектакль якога атрымае статус “Лепшага спектакля” і “Лепшай сучаснай беларускай пастаноўкі”, — 34,5 мільёна. Але гэтую суму трэба падзяліць на колькасць удзельнікаў (не больш за 5 чалавек). Атрымліваецца не больш за 6,9 мільёна рублёў на аднаго творцу.***

## Топ-5 кандыдатаў для прагляду

Усе 21 спектакль пакажуць у Мінску 24—30 лістапада. Якія з іх варта паглядзець? Тэатры, якія базіруюцца ў сталіцы, нікуды з яе не знікнуць. Таму лепш за ўсё завітаць на пастаноўкі рэгіянальных калектываў, якія рэдка дабіраюцца да Мінска. Яны будуць выступаць на сцэнах Купалаўскага і Лялечнага тэатраў.

Галоўны фаварыт у секцыі лялечнага тэатра — **“Самазванец”** Брэсцкага абласнога тэатр лялек. У рэжысёра Аляксея Ляляўскага, які ўвасобіў пад такой назвай пушкінскага “Барыса Гадунова”, атрымалася стварыць звышактуальны спектакль пра сучасную Расію. Са сцэны расказваецца іранічная гісторыя не пра самазванца (Ілжэдзмітрыя), а пра самазванцаў увогуле (у тым ліку Барыса Гадунова). Над сцэнай узвышаюцца постаці простых людзей, якія маўкліва назіраюць, як палітыкі XVII стагоддзя вырашаюць іх лёсы (абодва цара пакліканы на царства народам).

Катэгорыямі нашага часу жывуць і героі спектакля **“Фауст. Сны”** (Гродзенскі абласны тэатр лялек), створанага паводле матываў трагедыі Гётэ. Рэжысёр Алег Жугжда аддае ролю Мефістофеля... жанчыне. Актрыса Ларыса Мікуліч паўстае ракавой феміністкай у аблягаючым скураным камбінезоне і батфортах. А яе апанент і адначасова саюзнік Фауст верыць толькі ў свой розум, а не ў вышэйшыя сілы. А яго вучань Вагнер урэшце зоймецца стварэнне штучнага чалавека.

**“Гамлет”** Магілёўскага абласнога тэатра лялек разлічаны на маладзёжную аўдыторыю. Рэжысёр Ігар Казакоў захаваў глыбіню шэкспіраўскага тэксту, удосталь паіранізаваў над класікай (жанр спектакля заяўлены як “трагіфарш”), а таксама вывеў на сцэну героя свайго пакалення — інфантыла. Нездарма Гамлет апранаецца ў касцюм героя коміксаў пра амерыканскага Супермэна.

У аснове сюжэта **“Фрэкен Жулі”** (спектакль Магілёўскага аблдрамтэатра) — адносіны з адценнем мезальянсу (стасункі паміж Фрэкен Жулі, дачкой графа, і яе лёкаем Жанам, у якога ёсць нявеста, кухарка Крысціна). Літоўскі рэжысёр Саўлюс Варнас разумее Фрэкен Жулі як экстравагантную дзяўчыну, якая па сваім унутраным успрыманні засталася ў дзяцінстве. Спакушэнне ўласнага лёкая спачатку нагадвае гульню, якая, аднак, заходзіць вельмі далёка.

Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы прывозіць у Мінск спектакль “**Над безданню ў іржышчы”**. Рэжысёр Цімафей Ільеўскі вызначыў жанр пастаноўкі як “гісторыя сталення ў стылі рок-н-рол” і вытрымаў дзве ключавыя характарыстыкі гэтага жанру — дакладны рытм і раскаванасць дзеяння. Калі вы любіце рок-н-рол і Сэлінджара (а ў пастаноўцы захавана ўсё лепшае з рамана), а таксама ацэніце поўную адсутнасць маралізатарства — гэта спектакль менавіта для вас.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

ПАДЛІЧЫЛІ...

## *«Камуналка» за двухпакаёўку ўзімку складзе каля 420 тысяч рублёў*

Мінэканомікі падлічыла, колькі давядзецца плаціць сям’і з трох чалавек, якая жыве ў стандартнай двухпакаёўцы плошчай 48 кв. метраў. Паводле падлікаў міністэрства, пры нарматыўным спажыванні паслуг аплата “камуналкі” ў ацяпляльны перыяд складзе за месяц 419,3 тысячы рублёў.

**Для параўнання:** плацяжы за жыллёва-камунальныя паслугі сям’і з трох чалавек у двухпакаёвай кватэры агульнай плошчай 48 кв.м сёлета ў верасні склалі 301,7 тыс.рублёў.

СТОП-КРАН

## *Лёд не крануўся, спадары прысяжныя засядацелі!*

*Беларусь пакуль не гатова да ўвядзення інстытута прысяжных.*

Пра гэта заявіў генеральны пракурор **Аляксандр Канюк,** выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў.

*“Напэўна, мы сёння яшчэ не гатовы. Дзяржава не гатова да гэтага. Ва ўсякім разе не гатовы менталітэт нашага народа”,* — сказаў генпракурор.

*“Прыцягненне прадстаўнікоў народа да рашэння пытанняў вінаватасці па самых складаных злачынствах — гарант незалежнасці судоў,* — лічыць былы суддзя Канстытуцыйнага суда Беларусі **Міхаіл ПАСТУХОЎ**. — *Я ўпэўнены, што суд прысяжных — самая дэмакратычная форма правасуддзя, бо забяспечваецца ўлік усіх абставін справы. У выпадку, калі ўзнікаюць сумненні ў вінаватасці чалавека, суд прысяжных, як правіла, становіцца на яго бок. І калі яму пагражае смяротнае пакаранне, то пры сумненнях суд прысяжных ніколі не прыме вердыкт “вышэйшая мера пакарання”. Паўтаруся, практыка дзейнасці гэтага інстытута ў Расіі і іншых краінах паказвае, што гэта самы незалежны суд”.*

— Насамрэч для Беларусі гэта дастаткова сур’ёзнае пытанне, — дадае старшыня ГА “Беларускі Хельсінкскі Камітэт” **Алег ГУЛАК.** — Да слова, у многіх еўрапейскіх краінах суда прысяжных няма. Але ў любым выпадку нашай судовай сістэме патрэбна рэформа, якая наблізіла б судавытворчасць да народа. Бо правасуддзе павінна быць не толькі законным, але і справядлівым. Гэта неразрыўныя паняцці, але неразрыўнасць якраз і дасягаецца набліжэннем да грамадства. А што датычыцца таго, ці падрыхтавана наша грамадства да ўвядзення інстытута прысяжных... Яно ніколі не стане падрыхтаваным, калі не будзе ўдзельнічаць у працэсе. Чым больш жывеш у лесе, тым складаней затым жыць у горадзе. А вось судовая сістэма на самай справе не гатова да суда прысяжных. Суддзі ж пазбавяцца манаполіі на судавытворчасць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПРАВА ЧЕЛОВЕКА

# Моральная победа Олега Волчека

*Комитет по правам человека ООН принял очередное положительное решение по жалобе гражданина Беларуси. На этот раз Комитет пришел к выводу, что в 2006 году, изъяв у юриста Олега Волчека книги, содержащие материалы независимого расследования о насильственном похищении экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко, и оштрафовав Волчека на сумму, эквивалентную почти 775 долларам США, государство нарушило его право на свободу искать, получать и распространять информацию, а также право на выражение мнений.*

— 7 мая 1999 года по пути домой был насильственно похищен один из лидеров оппозиции, экс-министр МВД Юрий Захаренко. — Олег Волчек рассказывает о подробностях рассмотрения его жалобы в ООН. — Мне как бывшему следователю было предложено возглавить Общественную комиссию по установлению обстоятельств похищения Захаренко. Результаты расследования мы опубликовали в книге *“Хроника государственной подлости. Что, как и почему случилось с генералом Юрием Захаренко?”*. По нашей версии к похищению Захаренко были причастны представители белорусских силовых ведомств. Книга увидела свет, мы ее презентовали на пресс-конференции, и никаких претензий к ее распространению со стороны прокуратуры не последовало.




Однако, когда 20 августа 2006 года я ехал в Польшу, на границе меня обыскали таможенники и изъяли несколько экземпляров книги о Захаренко, а также брошюру “Мониторинг о нарушениях избирательного законодательства во время выборов Президента в 2006 году”. Мне было заявлено, что данная литература дискредитирует Республику Беларусь.

17 октября 2006 года без моего присутствия состоялся суд, на котором судья, ссылаясь на заключение тогдашнего председателя КГБ С.Н.Сухоренко, признала, что данные книги могут *“нанести ущерб политическим интересам и национальной безопасности Республике Беларусь”,* и приняла решение уничтожить книги и оштрафовать меня на сумму, эквивалентную почти 775 долларам США.

При изучении материалов дела мне стало ясно, что мое задержание было не случайным: некоторые документы в деле носили статус “Совершенно секретно”, “Для служебного пользования”. Поэтому решение суда я обжаловал в Гродненском областном суде и Верховном суде, но все вышестоящие судебные инстанции признали, что меня привлекли к административной ответственности законно. Тогда я решил направить жалобу в Комитет по правам человека при ООН, поскольку посчитал, что Республикой Беларусь было нарушено мое право на выражение мнений и право на свободу искать, получать и распространять информацию.

24 июля 2014 года прошло заседание Комитета по правам человека ООН, где были подтверждены мои доводы. Комитет признал, что Республикой Беларусь были нарушены мои права по стст.14 и 19 Международного пакта о гражданских и политических правах. Также Комитет пришел к выводу, что судом было нарушено мое право на справедливое и открытое судебное разбирательство. В резюме заключения Комитета по правам человека ООН указано, что Республика Беларусь обязана по решению данного органа обеспечить мне эффективное средство правовой защиты и компенсировать все судебные издержки и штраф.

**— Олег, вы прекрасно знаете, что Комитет по правам человека не единожды фиксировал нарушения прав и свобод белорусов, но ни одно из принятых комитетом решений белорусскими властями не исполнено. То есть получается, что вы как бы ничего и не добились…**

— Скорее всего, никто мое административное дело не отменит, а книги и 775 долларов США не вернет. Но для меня главное, что это решение одной из влиятельных международных юридических структур и оно подтверждает, что я был незаконно привлечен к административной ответственности. Это важная моральная победа над теми, кто устроил эту провокацию. Сколько государственных ресурсов было затрачено на мое “дело”! А ради чего? Я могу назвать фамилии только 17 представителей государственных структур, не считая технического персонала, которые занимались мною.

Судебные органы: судья Октябрьского района г.Минска **Л.К.Жук,** председатель Гродненского областного суда **А.А.Гринкевич,** заместитель Председателя Верховного суда **В.Л.Калинкович.**

Председатель КГБ **С.Н.Сухоренко.**

Сотрудники Гродненской таможни: и.о. зам.начальника таможни по правоохранительной работе **А.В.Высоцкий,** и.о. зам.начальника таможни по правоохранительной работе **В.С.Гуреев,** начальник ОТОиК №2 **Ю.А.Малевич,** начальник ОТР МРТ **О.М.Леонович**, старший инспектор **И.М.Слушко,** старший инспектор **А.С.Сидляревич,** инспектор ОБК и АТП ГРТ **Ф.П.Павлович.**

Председатель Государственного таможенного комитета **А.Ф.Шпилевский** и начальник УОБК и АТП **А.В.Михалькевич.**

А также оперативный дежурный Государственного комитета пограничных войск **Вабисевич** и старший пограннаряда **С.В.Атрощенко,** начальник управления юстиции Гродненского облисполкома **А.Н.Сенькевич** и прокурор Октябрьского района г.Гродно **Б.С.Таранко.**

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

АКТУАЛЬНЫЙ ВОПРОС

# Обязана ли Беларусь выполнять решения Комитета ООН по правам человека?

Напомню, что летом этого года инициативная группа граждан (52 человека) провела учредительную конференцию по созданию новой общественной организации “Движение сторонников за реализацию Международного пакта о гражданских и политических правах” (сокращенно — “Пакт”). Однако Министерство юстиции отказало в регистрации организации, сославшись на некоторые неточности при оформлении документов. Попытка обжаловать это решение в Верховном суде не увенчалась успехом.

Параллельно с регистрацией новой организации его учредители (Михаил Пастухов и Леонид Судаленко) обратились в Конституционный суд. В своем обращении они указали, что Республика Беларусь отказывается исполнять решения Комитета ООН по правам человека (далее — КПЧ) и тем самым препятствует реализации гражданами своих конституционных прав и свобод. В этой связи было предложено принять закон, определяющий процедуру исполнения решений КПЧ.

Конституционный суд, как следует из его ответа учредителям организации, отказался возбуждать дело о неполноте правового регулирования в порядке главы 24 Закона “О конституционном судопроизводстве”. Тем не менее вопрос остается открытым: обязана ли Республика Беларусь исполнять решения КПЧ?

***

Выскажу некоторые соображения в обоснование своей позиции.

Во-первых, статья 61 Конституции предоставляет гражданам право обращаться в международные организации с целью защиты прав и свободы, если исчерпаны все имеющиеся внутригосударственные средства правовой защиты. Учитывая, что Беларусь до сих пор остается вне рамок Совета Европы, для граждан страны единственной возможностью защитить свои общепризнанные права является Комитет ООН по правам человека в Женеве.

После ратификации Республикой Беларусь 10 января 1992 г. Факультативного протокола к Международному пакту о гражданских и политических правах наши граждане стали стучаться в двери Комитета все чаще и настойчивее. Ждать решения вопроса приходилось долго (три-пять лет). На сегодняшний день рассмотрено 65 дел от граждан Беларуси. Практически во всех случаях установлено нарушение властями Беларуси основных прав и свобод, в том числе: права на жизнь, на свободу и неприкосновенность, на справедливое судебное разбирательство, на свободу слова, свободу мирных манифестаций, свободу объединения. Еще порядка 80 дел ждут рассмотрения в КПЧ. Их результат предрешен изначально. В глазах международной общественности Беларусь превращается в основного нарушителя прав человека.

Во-вторых, при действующей правовой регламентации белорусское государство обязано выполнять решения уставных органов ООН. Так, согласно статье 1 Устава ООН, все государства-члены должны добросовестно выполнять принятые на себя по настоящему Уставу обязательства. Международный пакт о гражданских и политических правах (пункт 3 статьи 2) возлагает на каждое государство обязанность “обеспечить любому лицу, права и свободы которого (...) нарушены, эффективное средство правовой защиты, даже если это нарушение было совершено лицами, действовавшими в официальном качестве”. К добросовестному выполнению международных договоров призывает Венская конвенция о праве международных договоров 1969 года.

В полном соответствии с международными нормами в Беларуси принят Закон “О международных договорах Республики Беларусь” 2008 года. В части второй статьи 33 Закона прямо записано, что нормы права, содержащиеся в международных договорах Республики Беларусь, являются частью действующего на территории Республики Беларусь законодательства и подлежат непосредственному применению, кроме случаев, когда из международного договора следует, что для применения таких норм требуется принятие внутригосударственного нормативного акта.

Разумеется, если необходимо принятие такого акта, то давайте его примем. Мы и предложили Конституционному суду это сделать. Однако он не захотел привлекать внимание к проблеме...

В-третьих, Комитет ООН по правам человека в Замечаниях общего порядка относительно исполнения своих решений от 25 июня 2003 года указал: “Присоединившись к Факультативному протоколу, государство-участник признало компетенцию Комитета определять наличие или отсутствие нарушений Пакта и (...) обязалось обеспечивать всем находящимся в пределах его территории или под его юрисдикцией лицам права, признаваемые в Пакте, и в случае установления нарушения обеспечить эффективное и действенное средство правовой защиты”.

***

Республика Беларусь остается едва ли не единственным государством-членом ООН, которое отказывается признавать решения Комитета ООН по правам человека. Между тем счет жертв нарушений общепризнанных прав человека в Беларуси продолжает расти. Ситуацию надо как-то разрешать. Государство должно выполнять свои международные обязательства, в том числе перед своими гражданами. Иначе зачем нам такая власть?!

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**один из заявителей в Комитет ООН по правам человека.**

АБ ГЭТЫМ — УПЕРШЫНЮ!

*Алеся ПАЛУЯН:*

# «Я ведаю, як можна з дапамогай сабак палепшыць самаадчуванне хворых...»

***Алесю Палуян многія ведаюць як сертыфікаванага інструктара-дрэсіроўшчыка і гаспадыню адной з першых у Мінску гасцініц для жывёл. Цяпер свае сілы дзяўчына вырашыла паспрабаваць яшчэ і ў каністэрапіі — лячэнні з выкарыстаннем сабак і яе развіцці ў Беларусі.***

— Мне да гэтага часу незразумела, чаму ў нашай краіне ніхто не лічыць неабходным вывучыць вопыт іншых краін, дзе даўно выкарыстоўваюць лячэнне людзей з ужываннем спецыяльна адабраных і навучаных сабак, — **развaжае Алеся Палуян.** — Я ўзялася за гэтую справу, таму што разумею відавочную карысць каністэрапіі. У маёй практыцы нават быў выпадак, калі нерухомае дзіця паднялося з інваліднага крэсла, абапіраючыся на сабаку, і змагло трымацца на ножках...

**— Сапраўды цуд! А як адбываецца лячэнне?**

— Хворыя забываюць пра свае праблемы, калі бачаць побач адданую, пазітыўна настроеную жывую істоту. І ад гэтага самаадчуванне хворых паляпшаецца.

**— Дык, можа, у хуткім часе стаўленне да каністэрапіі ў нас зменіцца?**

— Не думаю, што гэта адбудзецца. Пакуль што ўсе пачынанні ў лячэнні пры дапамозе жывёл — прыватная ініцыятыва: і стайні, дзе трэнеры праводзяць іпатэрапію, і дэльфінатэрапія, і каністэрапія ў нашай краіне не ліцэнзаваны.

**— А навошта асабіста вам дапамагаць людзям? Што вы атрымліваеце ўзамен?**

— Я ведаю, як можна палепшыць самаадчуванне з дапамогай сабак, і мне хацелася б перадаваць свае веды, каб адчуваць сябе патрэбнай грамадству: у падтрымцы людзей я бачу сэнс свайго існавання. У мяне ёсць дзве аддушыны — гасцініца для жывёл і каністэрапія. Дапамагаючы гаспадарам, калі яны з’язджаюць у адпачынак, вырашыць праблему з хатнімі ўлюбёнцамі, я яшчэ і зарабляю грошы — гэта мая крыніца даходу. А што да дапамогі дзецям з асаблівасцямі развіцця, то тут ні пра якія грошы я нават не думала. Тры гады займаюся гэтым бясплатна: раз на тыдзень прыязджаю са сваімі сабакамі на іншы канец горада і паўдня забаўляюся з дзецьмі проста таму, што адчуваю: прыношу карысць. Бачыць шчаслівыя твары дзяцей — гэта ні з чым не параўнальнае задавальненне.

**— Як пра вас даведваюцца людзі, якім патрэбна дапамога?**

— Спачатку я сама знаходзіла людзей, якім патрабаваліся сабакі і мой досвед. Многія сябры ведалі пра незвычайныя ўменні маіх гадаванцаў і перадавалі звесткі пра мяне ад чалавека да чалавека. Так я апынулася ў Цэнтры дзённага знаходжання інвалідаў Першамайскага раёна, дзе мной і маімі сабакамі вельмі зацікавіліся. Адзіным мінусам было тое, што нас усё ж баяліся пускаць у памяшканне, тлумачачы гэта санітарнымі нормамі. Таму мы праводзілі заняткі на двары. Узімку ўсе разам каталіся на санках, летам гулялі ў мяч.




**— Калі прытрымлівацца закона, то вы як быццам займаецеся нелегальным відам дзейнасці…**

— Атрымліваецца так. Але я ведаю, што сваёй дзейнасцю ніяк не нашкоджу хвораму дзіцяці, бо дзейнічаю з добрым, станоўчым пасылам. Да таго ж у мяне ёсць дыплом псіхолага і кіналагічная адукацыя...

**Ганна ТРУБАЧОВА,**
**Таццяна СМАЛЕНСКАЯ.**

РАЗОБЛАЧЕНИЕ

# Обман

## «в целях стимулирования рационального и экономного отношения населения к водным ресурсам»

В №71 (3914) газеты "Народная Воля" от 12 сентября 2014 г. инженер Роман Клавсуть в статье "Як "эканомяць" цеплавую энергію ў Віцебску..." обстоятельно показал технические издержки такой "экономии". Схожая ситуация наблюдается и в Минске и, могу предположить, является характерной для всех регионов страны.

У меня на столе стопка счет-квитанций за 2002 год, в которых, начиная с марта месяца и до конца года, имеется графа "Расход тепловой энергии на подогрев 1 м. куб. воды (Гкал) = 0,0422", что соответствует расчетам Романа Клавсутя. Такие же траты гигакалорий я отмечаю и за 2003 год, а также с января по сентябрь 2004 года. И тут я наблюдаю интересный момент: на оборотной стороне счет-квитанции крупным шрифтом красного цвета помечена информация — "17 кастрычніка 2004 года Рэспубліканскі рэферэндум і выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь трэцяга склікання". А уже в октябре 2004 года вместо графы "Расход тепловой энергии на подогрев 1 м. куб. воды (Гкал)" появилась новая — "Расчет расхода тепловой энергии произведен по факту потребления". Чувствуете разницу? С января 2005 года положение потребителя еще более усложнено, о чем косвенно можно судить по информации: "В случае появления вопросов по начислениям просим обращаться в ЖЭС", где "наиболее полно и квалифицированно рассмотрят Ваши вопросы по начислению жилищно-коммунальных услуг, потреблению теплоэнергии и помогут найти решение".

Вот как: "начислят услуги" и "помогут найти решение". Вот это культура обслуживания, вот это внимание к человеку! Вот, оказывается, с кем дружбу водить надо! А Роман Клавсуть твердит о физике, о механизмах расчетов, об экономии...

В последующем количество гигакалорий, необходимых для подогрева 1 м куб. воды, требовалось почему-то все больше и больше. То ли воду стали добывать изо льда, то ли газ не того качества. Сравнительный анализ показывает, что в августе 2009 года тратилось уже 0,0613 Гкал, в сентябре 2009-го — 0,0652, в августе 2011 года — 0,0682, в сентябре 2013-го — 0,0735, а в октябре 2013 года — 0,0783 Гкал. На 1 м куб. воды. Не явился исключением и нынешний жаркий 2014 год. В апреле потребовалось 0,0780 Гкал, в июне — 0,0691, в июле — 0,0729, а в августе — 0,0762 Гкал.

И это в период проведения, по сути, ревизии финансово-хозяйственной деятельности этого монстра (ЖКХ) силами специалистов КГК Беларуси. Они-то понимают, в чем "секрет" такой расточительности, да и "роза ветров", на которую часто ссылаются работники ЖКХ, тут ни при чем, равно как и материалы, из которых возведен дом, который не менял своего местоположения и не обновлялся в рассматриваемый период времени.

Вопреки расхожему мнению, ничего полезного не принесла и кампания по установке индивидуальных приборов учета (счетчиков) потребляемой воды, кроме, конечно, прибыли, связанной непосредственно с реализацией приборов и стоимостью их монтажа на стояках холодного и горячего водоснабжения, принесших кому-то неплохие дивиденды.

Приводимые цифры якобы сокращения потребления воды в плане экономии, что относили себе в заслугу руководители этого ведомства и за что, возможно, получили даже премии, надо понимать, дутые, просто потому, что "совковые" нормы потребления, которыми гордились чиновники в своих отчетах, были более чем в два раза завышены; по тем нормам — 9 кубических метров, то есть, по мнению тех, кто устанавливает нормы, каждый член семьи ежедневно принимал как минимум 1,5—2 ванны. Сегодня для возмещения утерянных доходов ЖКХ, государства, в связи с фиксированным снижением показателей объемов использованной воды (а люди фактически меньше потреблять не стали) требуется и осуществляется надувательская возня с гигакалориями, цифры которых выросли значительно (от нормативных 0,04 до 0,0783 Гкал на 1 м куб. воды), не говоря уже о росте тарифов. Вот и вся современная политика на фоне заявлений о преобразованиях. Их просто нет!

Такое же жульничество наблюдается и с оказанием услуг по обеспечению холодной водой и производимыми начислениями по объемам и тарифам, взятым с потолка.

Так, первый заместитель министра ЖКХ А.А.Терехов, ссылаясь на постановление СМ Республики Беларусь от 25.08.1999 №332, говорит об установлении "нормы" водопотребления на уровне 140 литров в сутки на одного проживающего (зарегистрированного) в квартире, исходя из того, что такая "норма", подчеркиваю, "была принята на основании анализа **фактических данных водопотребления** по Республике Беларусь, а также данных по странам Европейского Союза и является **обоснованным** минимальным социальным стандартом".

В таком случае приступим к арифметике. В моей квартире счетчики воды не установлены, проживают в ней два человека. 140 литров х 31 день = 4340 литров, удваиваем на число прописанных и получаем 8680 литров. Тем не менее в извещении на оплату "услуг" ЖКХ выставляется цифра — 16.120 литров, то есть кем-то установлена норма воды в 268 литров на человека в сутки. Откуда взята эта цифра, если замминистра ЖКХ уверяет, что фактическое и обоснованное потребление — 140 литров в сутки на человека?!

Вот, уважаемый читатель, еще один обман, о котором нигде прямо не говорится, не обосновывается "командное" решение и, более того, тщательно маскируется и скрывается.

Но и это не все. Вместе со взятым с потолка объемом в 270 литров это ведомство установило отдельный тариф на воду, который составляет 9000 рублей за метр кубический. Может быть, я чего-то не знаю? Может быть, у меня течет не вода из крана, а какой-то целебный элексир? Я спрашивал и спрашиваю: чем продиктовано подобное решение? Это что — наказание? Как объяснить данный волюнтаризм с точки зрения действующего законодательства?

Хочу подчеркнуть еще один весьма интересный и примечательный момент: оказывается, все эти меры приняты А.Тереховым и К? "в целях стимулирования рационального и экономного отношения населения к водным ресурсам".

Вот, оказывается, где собака зарыта. Выходит, что принудительная "чистка" кошельков граждан — это не "наказание", а... "стимулирование"! Стимул (от лат. Stimulus) — остроконечная палка, которой подгоняли животных. Только не понятно, почему эта палка ударяет по нам, потребителями. Может быть, пришло время привести в чувство одно из самых расточительных ведомств — жилищно-коммунальное хозяйство?

**Николай Иванович СЕМАШКО, пенсионер.**

*Минск.*



ЛЁС ЧАЛАВЕКА

# За справу Алесі Садоўскай бярэцца БХК

***Беларускі Хельсінкскі камітэт (РПГА БХК) вырашыў звярнуцца ў Генпракуратуру з просьбай даць ацэнку рашэнню суда Маладзечанскага раёна аб прымусовым лячэнні ў псіхіятрычным стацыянары жыхаркі Маладзечна Алесі Садоўскай.***

Матэрыялы, прадастаўленыя праваабаронцам, даюць падставы ўсумніцца ў законнасці вынесеных у дачыненні да Садоўскай рашэнняў.

Пра гісторыю Алесі Садоўскай "Народная Воля" пісала падрабязна. Іначай як дзікунствам яе не назавеш. Калі коратка, то гісторыя такая.

У Алесі Садоўскай у навагоднюю ноч 2012 года ў маладзечанскім клубе "НЕО" скралі тэлефон. Яна звярнулася па дапамогу ў міліцыю, але сама апынулася ў пастарунку, дзе, як заяўляе, падверглася катаванням. Алеся паспрабавала прыцягнуць сваіх крыўдзіцеляў да крымінальнай адказнасці. Але спроба абараніць свае правы і гонар абярнулася... напраўленнем на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне на паўгода. Такое рашэнне ў ліпені гэтага года вынес Маладзечанскі раённы суд. Хаця Алеся прайшла экспертызу ў Маскве, у Незалежнай псіхіятрычнай асацыяцыі Расіі, спецыялісты якой (дарэчы, аўтарытэтныя ўрачы-псіхіятры) адзначылі, што ні ў якім прымусовым лячэнні яна не мае патрэбы, усе беды Алесі ад таго, што яна верыць у справядлівасць. Дарэчы, у судзе і псіхіятр горада Маладзечна ў сваім выступленні казаў літаральна тое ж самае, сцвярджаў, што дастаткова амбулаторнага назірання за Садоўскай.

— Тое, што ў Беларускім Хельсінкскім камітэце маёй справай зацікавіліся, заняліся ёю, усяляе аптымізм, — кажа Алеся. — Сам гэты факт азначае, што мая справа — не бытавы канфлікт. Дарэчы, юрыстам БХК не спатрэбілася праводзіць ніякай дадатковай праверкі па маёй справе, паколькі ў адказах з праваахоўных органаў, якія я атрымлівала на свае скаргі, яны знайшлі парушэнні.

Сёння я як на парахавой бочцы. Рашэнне суда аб прыцягненні мяне да прымусовага лячэння як бы трэба выконваць. Ведаю, што першапачаткова з РАУС матэрыялы на выкананне рашэння суда былі перададзены ў "хуткую дапамогу". Аднак калі ўрачы зрабілі запыт у псіхіятрычна-неўралагічны дыспансер Маладзечна і атрымалі адказ, што я там на ўліку не стаю, дык заявілі, што гэта не ў іх кампетэнцыі, і перадалі матэрыялы назад у РАУС.

Крымінальна-выканаўчая інстанцыя таксама адмовілася выконваць гэтую пастанову. Я туды тэлефанавала, цікавілася. Таму зараз матэрыялы на выкананне рашэння суда знаходзяцца ў патрульна-паставой службе, і, як мне там паведамілі, мне прызначаны прывод.



Перажываю за сваю дачушку Кацюшу. Яна адчувае, што я ў напружанні, тым больш што я ёй сказала, што, магчыма, мне прыйдзецца легчы ў шпіталь на паўгода. Я ж павінна падрыхтаваць яе псіхалагічна і да такога развіцця падзей. Хаця скажу шчыра: спадзяюся і веру, што ў хуткім часе гэтая абсурдная сітуацыя вырашыцца вышэйстаячымі судамі, у якіх я абскардзіла рашэнне Маладзечанскага раённага суда і Мінскага абласнога, які пакінуў без змяненняў абсалютна незаконнае рашэнне лячыць мяне прымусова. Спадзяюся, што мяне нарэшце пакінуць у спакоі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ІНШАЯ ДУМКА

## Не трэба палохаць баршчэўнікам

Я не згодны з тымі, хто адносіць баршчэўнік Сасноўскага, выбачайце, да "ворагаў народа". Пра гэта напісала ў сваім артыкуле, напрыклад, Любоў Лунёва.

Я паважаю Любоў Аляксееўну, рэгулярна чытаю яе матэрыялы, але я не згодны з вучоным Ламанам, да якога яна звярнулася па каментарый. Ён сцвярджае, што баршчэўнік у сонечнае надвор'е выклікае апёкі скуры чалавека, "забыўшыся" дадаць, што гэта датычыцца 3—4 працэнтаў, інакш кажучы, выстаўляе гэтую расліну атрутай, калі на самай справе яна алерген, якіх сярод раслін сотні.

Калі я быў аграномам саўгаса "Глыбачаны" Ушацкага раёна Віцебскай вобласці, доўгі час вырошчваў гэтую расліну як сіласную культуру, і ў той час саўгас прадаваў дзяржаве ў шэсць разоў больш мяса, чым цяпер на кукурузе.

**Яўген АКСЯНОВІЧ.**

*в.Глыбачка Ушацкага раёна.*

ГЛАС НАРОДА

# «Потерял все, остался ни с чем...»

Читаешь нашу провластную прессу, слушаешь Белорусское радио, смотришь телевидение и невольно начинаешь верить, что старики у нас окружены небывалой заботой и особым вниманием. А уж ветераны Великой Отечественной войны — в льготах катаются как сыр в масле. По крайней мере об этом долдонят постоянно. Но так ли это на самом деле?

Совсем недавно я получил письмо от ветерана труда, участника боевых действий в Венгрии 1956 года, инвалида первой группы **Леонида Михайловича Рожновского,** проживающего вместе с женой в г.п. Шумилино Витебской области. Только 22.02.2014 г. ему вручили удостоверение "Участник войны".

*"Только из публикации в одной из независимых газет,* — пишет Леонид Михайлович, чей трудовой стаж составил более 50 лет, — *я узнал, что, согласно белорусскому законодательству, имею льготы и могу ими пользоваться, как и ветераны ВОВ.*

*Так как я инвалид 1-й группы, лежачий больной, парализован после перенесенного инсульта, уже шесть лет не знаю, что такое улица. Ведь вместе с женой мы живем в двух комнатах общежития сельхозтехники, которые я получил при уходе на пенсию после перенесенной производственной травмы. "Комнаты" наши размещены на 3-м этаже, кухня отсутствует, вместо нее — ванная, где мы и стираем, и моемся, готовим пищу и моем посуду... Властные структуры, похоже, считают это райскими апартаментами. Поэтому мы обратились в райисполком с просьбой поставить нас на учет нуждающихся в улучшении жилищных условий, выделить нам комнату на 1-м этаже с кухней и нормальными условиями проживания.*

*Вскоре из райисполкома пришел отказ, в котором нам посоветовали обратиться с жалобой на их решение в облисполком. И вот ответ на нашу, как нам кажется, совершенно законную жалобу.*

*"Витебский областной исполнительный комитет, рассмотрев Вашу административную жалобу на решение Шумилинского районного исполнительного комитета от 17 марта 2014 г. №85 "Об учете граждан, нуждающихся в улучшении жилищных условий", сообщает следующее.*

*Решением Шумилинского райисполкома принято административное решение об отказе Вам в постановке на учет нуждающихся в улучшении жилищных условий и включении в отдельный список граждан, имеющих право на получение жилого помещения социального пользования государственного жилищного фонда, в связи с тем, что обеспеченность общей площадью жилого помещения превышает 15 кв. метров на одного человека.*

*Как установлено, на имя Вашего супруга Рожновского Л.М в г.п. Шумилино по ул. Зеленая зарегистрирован на праве собственности жилой дом №7, общей площадью 36,7 кв. метров. Вы с супругом зарегистрированы в жилом помещении в общежитии, состоящем из двух жилых комнат, общей площадью 34, 81 кв. метров.*

*В соответствии с пунктом 2 статьи 35 Жилищного кодекса Республики Беларусь граждане, имеющие в собственности в данном населенном пункте жилые помещения, в которых они не проживают, не могут быть признаны нуждающимися в улучшении жилищных условий.*

*В соответствии с законодательством Республики Беларусь включение граждан в отдельные списки учета, помимо общего списка, осуществляется только при наличии у них права на внеочередное или первоочередное предоставление им жилых помещений либо на получение жилых помещений социального пользования.*

*В связи с тем, что у Вас имеется в собственности жилое помещение, Вам обоснованно отказано в постановке на учет нуждающихся в улучшении жилищных условий и включении в отдельный список граждан, имеющих право на получение жилого помещения социального пользования государственного жилищного фонда. Оснований для отмены административного решения не имеется.*

*На основании абзаца третьей статьи 39 Закона Республики Беларусь от 28 октября 2008 года "Об основах административных процедур" административное решение оставлено без изменения, а Ваша административная жалоба без удовлетворения..."*

С нескрываемой болью далее Леонид Михайлович пишет: "Облисполком утверждает, что в г. п. Шумилино на мое имя зарегистрирован дом общей площадью 36,7 кв. метров. Это ложь. Эта хата мне давно уже не принадлежит. С 1979 г. я в ней не проживаю. В 1979 г. я поменял место жительства, переехав в сельскую местность, а хату продал, о чем свидетельствует договор купли-продажи, заверенный госнотариусом еще в апреле 1988 года (копия договора имеется).

А заканчивает рассказ про свои "хождения по мукам" заслуженный ветеран труда и войны сообщением о том, что у него в сбербанке хранился вклад на 7 тысяч советских рублей, и он тоже бесследно исчез. И вот последние строки из горькой исповеди Леонида Михайловича: "Госсобственности я не имел, приватизировать было нечего. Потерял все, остался ни с чем..."

А вот строки из письма "окруженной вниманием и заботой" брестчанки Г.Н.Масайло:

*"Я думаю, что вопросы о вкладах СССР не должны быть забыты. Больше всего они волнуют нас, пожилых людей, отдавших родной Беларуси все силы и здоровье. Но наше социально ориентированное правительство почему-то не реагирует на все наши слезные обращения. На все у нас хватает денег: строим крупные ледовые дворцы, постоянно проводим пышные увеселительные мероприятия, укрепляем оборону... Вроде страна развивается успешно, в срок отдаем зарубежные заимствования, а вот взятые у своего народа в долг деньги все никак вернуть не можем. Невольно складывается впечатление, что наше правительство ждет не дождется, чтобы мы повымирали и тогда этот вопрос будет снят с повестки дня. Горько и обидно..."*

И дальше раздосадованная Г.Н.Масайло продолжает: *"А ведь если бы ежегодно понемногу компенсировали наши вклады, то сегодня этот вопрос так остро не стоял бы.*

*В свое время правительство обещало разработать мероприятия по возвращению вкладов, но потом забыло об этом. Можно было начать возвращать деньги пожилым пенсионерам, детям войны, кому сегодня за 80 лет, они это заслужили. В других соседних странах ведь этот наболевший вопрос не забыт. Очень хотелось, чтобы свое мнение по вопросу возврата потерянных сбережений высказал наконец наш президент..."*

Уважаемая Г.Н.Масайло, хочется вам напомнить, что Александр Григорьевич уже много раз поручал правительству и руководству Национального банка республики разработать план возврата украденных у народа вкладов, да и сам обещал вернуть людям потерянные сбережения. К великому сожалению, подобных обещаний было более чем достаточно, но воз, как говорят в народе, и ныне там.

А вот что пишет мне ветеран труда, инвалид 2-й группы минчанка **Анна Петровна Савельева:** *"Я с огромным вниманием читаю в независимой прессе статьи о невыплаченных советских сбережениях, о ставшими пустыми бумажками чеках "Имущество". Эти вопросы волнуют не только нас — ветеранов, живущих сегодня на хлебе и воде, донашивающих все то, что купили, будучи еще молодыми. Они волнуют и многих других обманутых нашим Сбербанком.*

*Как известно, президент у нас является гарантом Конституции. А ее пункт 4 статьи 44 гласит: "Государство поощряет и охраняет сбережения граждан, создает гарантии возврата вкладов". 18 февраля 2011 года я внесла в АСБ "Беларусбанк" вклад 18 миллионов белорусских рублей, это было тогда равноценно 6 тысячам долларов. Из-за многократного изменения курса доллара к концу года я получила только 2 тысячи долларов. А где же в таком случае пресловутая государственная гарантия? Меня государство ограбило еще и в предыдущие годы, когда в республике произошла 20-процентная денежная девальвация. Я так думаю, что мне уже пора обращаться в суд. Но на кого?.. На того же Героя Беларуси, Петра Прокоповича, на государство?.."*

И еще. *"Кроме предвыборных обещаний вернуть советские вклады, президент наш ратовал и за чеки "Имущество", были приняты хорошие законы для их реализации. А что происходит с этими чеками сегодня? Срок их действия продлевают от выборов до выборов Президента, а погашать их, похоже, никто и не собирается. Но если сам Президент не исполняет подписанные своей же рукой законы, то кто тогда будет исполнять их?"* — резонно спрашивает А.П.Савельева.

Вот такой заботой окружены у нас ничем не провинившиеся ветераны войны и труда. И правда — редкие забота и внимание...

**Константин РОМАНОВСКИЙ.**

*Минск.*

СПОВЕДЗЬ

# Гарачыя слёзы Рыты

У той дзень мне не пазваніў сын, які вучыўся ў Гродзенскім пэдінстытуце. Гэта ўстрывожыла, бо ён званіў пастаянна пасля заняткаў. Мабільнікаў тады не было, і я з цяжкасцю дазванілася на вахту ў інстытуцкім інтэрнаце. Дзяжурная не хацела ісці клікаць і папрасіла нейкага студэнта. Праз пару хвілін я даведалася, што Ігара ноччу забрала "хуткая дапамога", бо яму вельмі балеў жывот.

Ужо быў надвячорак, і з нашага пасёлка ў Гродна заехаць не было на чым. Знаёмы падвёз да Шчучына, і я яшчэ паспела на апошні рэйс. На аўтавакзале ў Гродне наняла таксі, але ў якую бальніцу трэба было ехаць, канкрэтна не ведала. Пажылы таксіст пранікся маёй бядой і сказаў:

— Не хвалюйцеся, напэўна, у абласную. Спачатку паедзем туды, а як не будзе, то там даведаемся, куды яго паклалі. Не плачце, усё будзе добра.

Мы і сапраўды знайшлі Ігара ў абласной бальніцы, дзе яму ўжо зрабілі аперацыю: выдалілі апендыкс. Убачыўшы мой заплаканы твар, сын сказаў:

— Даруй, мама, што не пазваніў. Так скруціла, што не да званкоў было. Цяпер ужо ўсё добра. Доктар загадаў памаленьку рухацца. Глядзі, я хадзіць магу.

Ён устаў з ложка і зрабіў некалькі крокаў. У мяне, так бы мовіць, адлягло ад сэрца. Мы пагутарылі пра надзённыя справы, пра сесію, якая ў Ігара павінна была пачацца праз два тыдні.

Наступіў позні вечар, і хворыя ўжо ўладкоўваліся спаць.

— А дзе ж вы будзеце начаваць? — спытаў мужчына, ложак якога быў побач з сынавым.

— Ды вось тут ціхенька пасяджу, а калі нельга, то выйду ў калідор.

— Вы што, так жа цяжка! Усю ноч без сну. Я зараз пазваню сваёй жонцы, і яна прыйдзе і вас забярэ. У нас пераначуеце. Мы жывём непадалёку.

Ён і сапраўды пайшоў на сястрынскі пост пазваніць. Праз хвілін дзесяць санітарка паведаміла, што мяне ў вестыбюлі чакае жанчына. Я падзякавала і пайшла.

Перажытая трывога і стома проста валілі з ног. Жанчына прывяла мяне ў кватэру, прапанавала павячэраць, але я адмовілася, і яна паслала ў асобным пакоі.

— Тут жыў наш сын, але, калі ажаніўся, пераехаў у кватэру жончынай бабулі ў Мінск, — патлумачыла добразычлівая кабета.

Пераканаўшыся, што з Ігарам усё добра, я павінна была заснуць, але сон не браў. Галаву свідравала думка, што гэта незнаёмая жанчына вельмі падобна да маёй мамы, якая памерла сем гадоў таму. "Гэта ў мяне ад стомы, ад перажытай трывогі", — супакойвала сябе. З такім пераканнем і заснула.

Назаўтра раніцай гаспадыня пабудзіла мяне ласкавымі словамі:

— Будзеце ўставаць ці яшчэ паспіце? — прыязна ўсміхнулася яна. — Я то ўжо пайду, бо трэба ў аптэку на ўскрайку горада. Толькі там учора знайшла лекі, што тэрмінова патрэбны майму мужу. Яна адчыняецца ў восем гадзін. Пакуль дабяруся, то і будзе восем. Баюся, каб не разабралі, бо сказалі, што засталося мала. А вы можаце яшчэ паспаць. Снеданне на стале. Калі астыне, то падагрэйце на газавай пліце.

Я глядзела на яе, не адрываючы вачэй, бо сёння яшчэ больш пераканалася: спагадлівая жанчына і сапраўды вельмі падобна да маёй мамы.

— Як вас завуць? — спытала разгублена, хоць яе імя не магло ні аб чым сказаць.

— Рыта. А вас?

— Мяне Тоня... Адкуль вы родам?

— З радзільнага дома, — горка ўсміхнулася. — Мама адраклася ад мяне адразу, як я з'явілася на свет. Прычыны такога яе ўчынку не ведаю. Ды і якая розніца, чаму яна так зрабіла. Мяне аддалі ў дом малюткі, а потым знайшліся добрыя, спагадлівыя людзі, якія забралі ў сваю сям'ю. Выгадавалі, далі адукацыю. Я працую доктарам, вельмі люблю сваю работу. Муж мой таксама доктар. Вось толькі захварэў. Але мы спадзяёмся, што ўсё будзе добра. Мае мама і тата ўжо дзевяць гадоў як памерлі. На адным тыдні пайшлі з жыцця... Думала, не перажыву такога гора.

Даўкі камячок слёз не даваў мне дыхаць і размаўляць, але праз сілу спытала:

— Ну, а тую жанчыну, якая вас кінула ў радзільным доме, не спрабавалі знайсці, даведацца, хто яна і дзе?

— Не толькі спрабавала, але і знайшла. Хацелася ж ведаць, хто паступіў са мной так жорстка. Каб не мае любыя мама і тата, то мяне чакаў бы незайздросны лёс. Горкая, як палын, адзінота, вечнае пачуццё крыўды, што табе здрадзіў самы блізкі чалавек. Мама яшчэ ў раннім дзяцінстве сказала, што не яна мяне нарадзіла, а другая жанчына. Нават падказала, дзе яе трэба шукаць, калі я захачу гэта зрабіць. Яшчэ як вучылася ў медінстытуце, знайшла яе ў невялікім гарадку, даведалася, што працуе настаўніцай, што ў яе муж і дачушка-школьніца. Аднойчы была зусім блізка, але не прызналася, што я яе дачка... Ды і навошта гэта? Хіба сапраўдная мама магла б адмовіцца ад свайго дзіцяці? І звер, і птушка б'юцца за сваіх дзетак да смерці. А гэта...

— Рытачка, мілая, я твая сястра! Тая дзяўчынка-школьніца, пра якую ты толькі што казала. Даруй маме такі нялюдскі ўчынак, што яна зрабіла ў далёкай маладосці. Цяпер яе ўжо няма ў жывых. Перад смерцю вельмі мучылася, бо мела анкалагічнае захворванне. Усё казала: "Такая пакута за мой самы вялікі грэх, за маю дзяўчынку..." Але я думала, што гэта яна ад болю трызніць. Ты так падобна да мамы... Менавіта па яе рысах твару я цябе і пазнала.

Рыта абняла мяне, і я адчула на сваёй шчацэ яе гарачыя слёзы:

— Усё прайшло, Тонечка... Усё мінула... Я так рада, што ў мяне ёсць сястра!

Мы разам паехалі ў аптэку па лекі для яе мужа, потым у бальніцу. На дварэ цісануў мароз, дзьмуў моцны вецер, але ў маёй душы цвіла вясна: у мяне ёсць такая слаўная сястрычка!

Мінулі гады. Мы пастарэлі, але і дня не можам пражыць, каб не пазваніць адна адной, часта сустракаемся, дапамагаем у складаных жыццёвых сітуацыях. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо мы ж сёстры!

**З пашанай —**

**Антаніна Вікенцьеўна.**

*Гродзенская вобласць.*

